Год II. Люты. № 2 (12).

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
*Свой пачэсны пасад між славянамі*".

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1930 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ №1.

1. Арганізуймося — М. Пецюкевіч, 2. Каму [гэта патрэбна? — С. 3. Ліст у Рэдакцыю, 4. Не забываймося — Я. Б., 5. Куток для спорту — Ул. Казлоўшчык, 6. Зімой — Ар — Ар, 7. * * * — Наддзьвінец, 8. Даўней і цяпер — С. Трэпка, 9. Праз вакно — Аў. Бартуль, 10. Восень — І. Сяргевіч, 11. Зімовая ноч — С. Жалюбчык, 12. Моладзь — Я. Б., 13. Круцёлка — Я. Н., 14. Лісты, 15. Хроніка, 16. Усячына, 17. Наша пошта.

„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . . 35 гр.
„ на паўгода . . . . . . . 2 зл.
„ на год . . . . . . . . 4 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год II. | Вільня, — Люты 1930 г. | № 2 (12). |
| --- | --- | --- |

## АРГАНІЗУЙМОСЯ!

Шмат ужо пісалі, але і трэба пісаць больш аб арганізаваньні нашай моладзі, бо гэтая рэч вельмі важная. Арганізацыя мае за сабой глыбокую мінуўшчыну. Яе гісторыя пачынаецца разам з гісторыяй чалавецтва.

Арганізацыя — гэта рэч простая і зразумелая. Ратрэбу яе бачым на кожным кроку ў нашым штодзенным жыцьці.

Падымае напр. чалавек сам адзін нейкі цяжкі прадмет; ён вельмі намучаецца і часта не дапне мэты, а калі возьмуцца за такі прадмет некулькі асобаў, з ім зробяць лёгка тое, што ня мог зрабіць адзін. Тое, чаго ня можа адзін чалавек — зможа грамада супольнымі сіламі.

Народ наш яшчэ не зарганізаваны і дзеля гэтага церпіць адвечную няволю і беды.

Іншыя народы даўно зразумелі, што арганізацыя — гэта сіла духовая і фізычная, дык арганізаваліся і дзякуючы гэтаму сталіся вольнымі людзьмі і гаспадарамі свайго краю.

Дык ці не пара і нам беларускай моладзі нятолькі думаць аб арганізацыі, але і арганізавацца ў свае арганізацыі? Над гэтым пытаньнем мы не павінны застанаўляцца ані на хвіліну, бо ўжо найвялікшы час на гэта прышоў. Даволі нам бадзяцца па рожных чужых арганізацыях і траціць маладыя сілы на сваю некарысьць і шкоду!

Сорамна сапраўды было-б нам, беларускай моладзі, належыць да рожных варожых нам „kółek", якія польская эндэцыя начале з сваімі ксяндзамі рассявае на нашых беларускіх землях, што нясуць гібель нашым маладым душам беларускім.

Дзеля гэтага заклікаем нашу моладзь у свае беларуска-нацыянальныя арганізацыі, якія ўзгадуюць

нас на добрых грамадзян сваей Бацькаўшчыны—Беларусі і на добрых людзей агулам. Не забываймося аб тым, што арганізацыя ўсё зможа зрабіць, яе духовая і фізычная сіла творыць небывалыя рэчы ў сьвеце. Хто-ж робіць у дзяржавах рожныя пераваpоты, хто ўзвышае адных, а паніжае другіх? Усё гэта робіць толькі сільная арганізацыя.

Гляньма цяпер на нашае жыцьцё. Колькі нам робяць сільнейшыя крыўдаў і несправядлівасьці! Нас кожны эксплёатуе, ашуківае, бо з намі ня лічыцца. Мы ўсьцяж стогнем і крыўдуем, а нашага голасу ніхто ня слухае, бо мы ня трымаемся супольнасьці, мы ня маем арганізацыі. Дзеля гэтага на нас глядзяць, як на людзей цёмных, недаразьвітых, ня выробленых грамадзка, не арганізаваных.

Бязумоўна, ёсьць між нашай моладзяй ідэйныя адзінкі, якія працуюць і хочуць працаваць для агульнага дабра, але ёсьць нізкія, з сапсутым характарам, якія сьвядома шкодзяць справе рожнага роду правакацыямі і даносамі. Праўда, мяйсцовыя ўлады, як паліцыя, гміна і інш. перашкаджаюць рабіць і тую беларускую работу, на якую мы маем права, але гэтымі перашкодамі мы павінны ўпорыста змагацца і вытрывала працаваць на роднай ніве. Тая беларуская моладзь, ці тое старэйшае грамадзянства, якое працуе нам на шкоду, мусіць быць байкатаваным і пагарджаным, як выроднае насеньне. Але і тут змаганьне магчыма толькі дарогай арганізацыі.

Чалавек без арганізацыі — гэта пясок, які найменшы вецер гоніць, куды хоча. Трэба ведаць, што чалавек не арганізаваны заўсёды стаіць над пропасьцяй, у якую пазьней ці раней уваліцца.

Чалавек без арганізацыі — гэта дрэва адзінокае, якое ў кожную хвіліну можа бура паламаць.

Мне здаецца, што беларуская моладзь зразумее неабходнасьць арганізавацца ў адну вялікую беларуска-незалежніцкую сям'ю, якая напэўна здабудзе сабе і будучаму пакаленьню лепшую будучыню.

Дык да дзела, Беларуская моладзь! Усе як адзін— у рады моладзі, што гуртуецца каля нашай часопісі „Шлях Моладзі“!

**М. Пяцюкевіч.**

# Каму гэта патрэбна?

(Вучнёўскі Звон № 1 1930 г.).

Калі судзіць аб „Вучнёусхім Звоне“ па назову, дык здавалася-б, што гэта—проста вучнёўская часопісь. І калі-б запраўды гэта было так, дык усё былоб у парадку. Аднакжа, дзеля таго, што часопісь па назову з вузкай праграмай, мае, як відаць са зьместу, жаданьне ісьці ў сьвет і праводзіць свае асаблівыя „ідэі“ ў маладое беларускае грамадзянства, дык тут ужо ня ўсё ў парадку.

Цяпер, калі беларускі народ знаходзіцца ў страшлівай бядоце, калі беларуская вёска і места марнеюць у жахлівым эканамічным палажэньні, здавалася-б, што ўсе сілы беларускага грамадзянства павінны быць пакіраваны на тое, каб шукаць выхаду з тэй трагэдыі, у якую кінула наш народ гісторыя і трымае сучаснасьць. А выхад да лепшай будучыні знойдзе беларускі народ у сваім нацыянальным адраджэньні. На жаль, „Вучнёўскі Звон“ выбраў сабе шлях далёка адыходзячы ад гэтай мэты. І нават, наадварот, прабуе змагацца з тым, хто працуе на беларускай нацыянальна-грамадзкай ніве. Каму гэта патрэбна?

---

„В окна б'ют без промаха
Вороны крылом;
Как мятель, черемуха
Машет рукавом.

Вось што знаходзім мы ў „Вучнёўскім Звоне“ і гэта ёсьць пачатак дзеля таго, каб даказаць, што ня трэба ныць, бо „хутка прыдзе волат,“ які дасьць збаўленьне. Кропка ў кропку, як і ў санацыйных польскіх часопісях, якія стараюцца забіць веру ў грамадзкую працу і самадзейнасьць мас, а выстаўляюць „тэзу,“ што направіць благое палажэньне народу можа адна здольная асоба, ці той волат, аб якім гаворыць і „Вучн. Звон.“ За гэтакі курс прэсы санацыйнай, апазыцыйная польская прэса называе яе фашыстаўскай і робіць закіды ў тым, што санацыйная прэса „машет рукавом“ дыктатара, стараючыся забіць дзейнасьць народу і яго грамадзкую працу.

Не патрэбна такжа і тое, што „Вуч. Звон“ палемізуе з намі і даказвае, што тыя весткі, якія падалі мы аб марозе ў Верхаянску, аб гарачыні каля Чырвонага мора і г. д. не адпавядаюць праўдзе. Справа ў тым, што мы падалі тыя весткі ў хроніцы, узяўшы з найнавейшых жарол, а „Вучн. Звон“ прабуе паправіць іх асноўваючыся на „Geografji Gospodarczej—Cezaka“ і пры гэтым пробуе кінуць на нас цень дакоры. Каму гэта патрэбна? Ці ж „Geografja Gospodarcza“ гэткі непарушны аўторытэт? Чаму? — Хіба толькі таму, што вышла з Варшавы? Ці-ж для вас усё тое, што варшаўскае, дык абавязкава?

—Хіба так, бо іншай прычыны няма! **С.**

# Ліст у Рэдакцыю.

Паважаная Рэдакцыйная Калегія!

Ветліва просім зьмясьціць наш ліст у сваей паважанай часопісі. Убачыўшы № 1 „Вучнёўскага Звону,“ мы усьцешыліся, што вось і наша моладзь гімназіяльная, каторая ў будучыне павялічыць рады нашай інтэлігенцыі, жыве і штось робіць. Аднак, калі прачыталі мы стацьцю нейкага Ш. у гэтай часопісі пад загалоўкам: „Як ня трэба пісаць“, настрой наш зьмяніўся. Відаць, што зялёны аўтар гэтай стацьці за далёка разагнаўся. „Recte carpe viam puer“ бо стопіш воск сваіх крылаў і як Ікар зваліська... толькі ня ў мора... У дзяцінінай часопісі дзецям ня можна абгаварываць і крытыкаваць справы агульна грамадзкія і палітычныя, тым больш — паказываць дарогу старэйшым! Піша бедны Ш., што „Ш. Мол.“ ня ёсьць „з нядахопу маладых працаўнікоў пяра“ сапраўдным шляхам моладзі і дае факты, што паданыя ў „Щл. Мол.“ максімальныя і мінімальныя лічбы тэмпэратуры на кулі земскай не згаджаюцца з geografijej Cezaka, каторую зубраць вучні 5 клясы. Пры гэтым гэны Ш. кідае думку, што „Вучнёўскі Звон“, орган дзяцей, мае мецъ вышшасьць над „Шляхам Моладзі.“ Дык годзі!... Мы ведаем, што рэдактарам „Шляху Моладзі“ ёсьць М. Пяцюкевіч студ. гуманістыкі У. С. Б. да рэдакцыйнай калегіі належаць Я. Найдзюк, І. Тумаш і А. Шутовіч; апрача гэтых асоб супрацоўнікамі „Щляху Мол.“ зьяўляюцца: Л. Наддзьвінскі — студэнт багаслоўя, А. Бартуль — студ. права, Ч. Ханяўка — студ. земляробскага факультэту і іншыя. З гэтага бачымо, што „працаўнікі пяра“ „Шл. Мол. даволі моцныя. Адносна нязгодных з Цэзакам лічб, дык скажам малому Ш, што для дзяцей ёсьць аўтарытэтам падручнік Цэзака, а для кіраўнікоў „Ш. М. — найнавейшыя даныя навуковыя.

Прымі, Паважаная Рэдакцыйная Калегія, словы пашаны і просьбу, залічыць нас у лік сталых супрацоўнікаў сваей часопісі, запраўднага правадыра моладзі.

З пашанай

**Ф. Леўша і Я. Малецкі**

студ. мэд. У. С. Б. у Вільні.

Вільня, дня 1 лютага 1930 г.

# Не забывайма!

Жывучы ў месьце, цяжка працуючы для сябе на кавалак хлеба, не забывайма і не саромімся сваго брата-беларуса, які жыве на вёсцы. Бо трэба помніць, што бадай усе мы гадаваліся, падрасталі ў вёсцы-лапцяўцы і, што, калі былі мы малымі, маці спавівала нас ў зрэбныя полкі і калышачы ў калысцы пяяла песьні, а ў песьнях выяўляла сваё мужычае гора.

Многія з моладзі, дастаўшыся ў горад, усё гэта забыліся ды нват пачалі стараніцца і сароміцца вяскоўцаў.

Дык чаго-ж мы пачынаем стараніцца ад сваіх лазовых лапцей і ад зрэбнай кашулі, якую насілі нашы дзяды, бацькі і прадзеды нашы. Моладзь беларуская, жывучая ў месьце, рабіць гэтага не павінна.

Мы павінны йсьці ў той цёмны кут, гдзе гаруе наш брат-беларус. Раскажам яму ўсё, аб чым знаем самі. Пратром вочы яму, навучым яго чытаць і пісаць, вывядзем яго на шлях лепшага жыцьця.

А супольная праца беларускай вёскі і места давядзе да таго, што закрасуе наша старана. **Я. Б.**

# Куток для спорту.

## Бегі.

Спартыўныя бегі карысна ўплываюць на дзеяньне нашага сэрца і лёгкіх. Падчас бегу бярэ ўдзел кала 60 прац. мускулаў усяго нашага цела, а гэта вельмі карысна агульнаму развою нашага арганізму. Бегі апрача гэтага ёсьць добрай гімнастыкай энэргіі і вытрываласьці.

Бегі ёсьць кароткія, сярэднія і доўгія, або йнакш—вытрывалыя.

Кожны бег складаецца з трох часткаў: з выбегу (старту), бегу і дабегу (фініту). Кароткімі бегамі лічацца: бегі на 100 мэтраў, 200 і 400 мэтраў. Сярэднія— гэта ёсьць бегі на 800 мэтраў і на 1500 мэтраў.

Адносна выкананьня, дык бегі сярэднія рожняцца ад кароткіх тым, што ў сярэднім ёсьць раўнавага паміж працай лёгкіх і сэрца з аднаго боку і працай мускулаў—з другога боку, чаго няма ў кароткіх бегах.

Бегі даўгія, або вытрывалыя — гэта ёсьць бегі на 3 кіламэтры, 5 клм., 10 клм. і 42 кіламэтры. Гэты апошніназываецца Маратонскім бегам, дзела таго, што такую далячыню (42 клм. і 250 м.) ад Маратону да Афінаў прабег па бітве з Пэрсамі грэцкі пасланец з весткай аб перамозе.

Вытрывалыя бегі вымагаюць шмат прыгатаваньня, ім могуць аддавацца толькі дарослыя і здаровыя людзі.

Дзеля таго, што да бегаў ня трэба ніякіх прыладаў, кожны лёгка можа аддавацца гэтаму спорту, разумеецца, толькі на панадворку, або йшчэ лепш у лесе, або каля вады, бо тут заўсяды чысьцейшае і здаравейшае паветра.

Хворыя на сэрца доўга бегаць не павінны, аднак могуць, паскольку ім пазваляе сэрца, практыкаваць кароткія бегі.

Нам, беларускай моладзі, гэты спорт ёсьць найдаступнейшым, бо на іншыя спорты трэба адпаведнай плошчы і прыладаў, а бегі кожны можа практыкаваць на кожным месцы, разумеецца, толкі ў чыстым паветры.

**Ул. Казлоўшчык.**

# Літэратурны аддзел.

## ЗІМОЙ

За вакном віхор сьмяецца,
Што на сьвеце дрэнна жыць,
Што ліхое сэрца б'ецца, —
Думка ў даль кудысь ляціць.
Зімна, пуста ў курнай хаце,
Хлеба даўна ўжо няма,
Жонка стогне на палаце —
Эх зіма, зіма, зіма!
Колькі ты нясеш нядолі
У мужычы бедны кут,
Колькі сьлёз тут паняволі
Выливае бедны люд!
Ты сьмяешся, што па працы
Часам з гора вып'ю я...
Эх, зіма, зірні ў палацы —
Там ліецца кроў мая.
Ты сьмяешся, што я гіну
Ў зімнай хаце не адзет,
Што пакорную гну сьпіну,
А мне ўсё спагады нет.
Ты сьмяешся, што па працы
Я гарэлку п'ю даўно —
Эх, зіма, а там ў палацы
П'юць салодкае віно!

**Ар—Ар.**

* * *

Гэй, ты дуб векавы, ня шумі,
Песьню прошлага ты перарві,
Хай усё, што з табой пражылі,
Зьнікне сном і ня бурыць крыві.
Хай забудзем аб тым, што было,
Што казала нам жыць і любіць,
Тое што весялілась, цьвіло
І хацела усё весяліць.
Тое ўсё паняслося у даль,
Тое ўсё апранулась ў туман,
Зьнікла хутка усё, як той сон,
А застаўся ўспамін, горкі жаль.
Гэй, ты дуб векавы, перастань,
Бо усё, што было, што жыло
І сьмяялася зычна, як звон, —
Зьнікла яно, яно памярло...

**Наддзьвінец.**

## ДАЎНЕЙ І ЦЯПЕР.

Як калісь быў малы,
І ня ведаў, што сьвет,
Пасьціў з дзедам валы
І быў вольны ад бед;
Сваю працу ўсю знаў,
Што рабіць кожны дзень
І зрабіў, як узяў
Я бяз „ну“, як у пень.
Устаўшы рана—за біч,
Дый за быдлам пайшоў,
Не чакаў як паніч,
Каб палудзень прыйшоў.
Там плёў лапці ці кош,
Або віткі круціў,
Каб зрабіць які грош
І каб дурань ня быў.
Лапці з лыка абуў,
Порткі зрэбны надзеў,
Чорны хлеб абы—быў,
Абы есьць не хацеў.
Сьвятам кожны раз быў
Касьцёл поўны людзей
І Бог лепей любіў —
Было меней зладзей.
У касьцеле тым вось,
Не глядзелі ў куты,
На харошанькі нос,
Ані на капыты.
І жаніўся сынок
Як дубінка здароў,
Дзеўку браў як цьвяток,
Ня шукаў ён кароў.
Дзеўка замуж ішла,
Не за вусы, за дом,
Але сэрца знайшла
І жыцьцё ў сэрцы том.
Ўжо мінуўся той час
І той век залаты,
Што дабро цьвіло ў нас
І жылі як браты.
Цяпер з полак дзіця,
Ледва выйшла на сьвет,
Ўжо ня любіць жыцьця —
Знае моду і цьвет.
Вучыць бацьку, як жыць,
Каб багатым ён быў,
Як араць, як касіць
І каб дзеці любіў;
Каб што сьвята, кірмаш,
На бутэлечку даў,
Ня пытаўся што-раз
З кім так доўга гуляў.
Дачка матку штодзень
Наракае—злуе,
Што ня ўмее рабіць
І што будзіць яе.
Тут культуру і век,
Новы лад у людзей,
Як з пісьма разбярэ;
І крычыць ўсё мацней:
„Глянь, як моладзь-жа там
Выглядае гладзей,
Бо бацькі гадаваць
Добра ўмеюць дзяцей.“—
Не глядзіць-жа дачка,
Ані сын праклятый,
Што бацькі праз платы
Не цягалі асьмін,
Не рабілі яны
„Папярочных хрысьцін.“*)
Хоць быў цёмны народ
Мала кніжку хто знаў,
Але мала хоць п'ян
Хто ў балоце ляжаў.
„Разьнікоў“—помніць хто?
Мелі толькі жыды.
Сёньня ў каждым сяле
Поўна гэтай брыды.
— — — — — —
Дык тут помні, дзіця,
Як культуру пазнаць...
Трэба працу любіць
І бацькоў шанаваць;
Пазнаць кніжку, сябе
Чалавекам зрабіць,
Кінуць нож і карчму
І балота забыць.

**С. Трэпка.**

---

*) Гэтак завецца заступаньне людзям дарогі з мэтай разбою.

## ПРАЗ ВАКНО.

Гляджу сабе
На белы сьвет
Я праз вакно,
Ў ім цудна так вітражы пацьвіваюць.
І фэрмэнтуе ў жылах
Моладасьць—віно,
Яшчэ я сілай моладасьці п'яны.
Яшчэ маю досыць сіл,
Я чую іх.
Прад бураю жыцьця
Яшчэ ня гнуся,
Бо палкасьці агонь
Гарыць ў грудзёх маіх
І я ў змаганьні
Хутка не спынюся.
Не страшна мне жыцьцё,
Мне песьняй сэрца б'е,
Яшчэ я
Сілай моладасьці п'яны;
Ў вакне душы маёй
Праз моладасьць яшчэ
Вітражы шматкалёрна пазьвіваны.
Вільня 4.II.30 г. **Аў. Бартуль.**

## ВОСЕНЬ.

Нячутным крокам падпаўзла
Ў абліччы цёмных туманоў,
Красу прыроды адняла
Ў прасторах поля і лясоў.
Зрадзіла ў сэрцы боль — тугу
Па сьветлых, ясных, прошлых днях,
Якіх забыць я не магу,
Бо зноў мігнулі мне ў вачах.
Мігнулі зьявы пройшлых днёў
Узорам ясным, залатым,
Паўсталі быццам мары сноў
І зноў разьвеяліcь, як дым...
Заныла сэрца у грудзях —
Няўжо ніколі не вярнуць
Прайшоўшых зьяў на жыцьця шлях,
Якія ў памяці жывуць?
Жывуць і будуць жыць яны,
Іх часта буду ўспамінаць...
Ці ўдасца-ж ў новых днях вясны
Мне іх нанова адшукаць?

**І. Сяргіевіч.**

## ЗІМОВАЯ НОЧ.

Замоўк, заціх люд спрацаваны,
Пануе ночка у сяле —
Н'ат вецер так-жа дзесь заспаны,
Галінак нагіх не кране.
З залесу выйшаў месяц ясны,—
Так гожа стала на двару.—
І з сонна—мёртваю зямлёю,
Як быццам гутарку вядзе.
І заіскрыўся сьнег пуховы,
Гараць брыльянты — аганькі,
Мароз накладывае шаты
На дрэў галінкі і кусты.
То па сьцяне ён часам лясьне,
Магільну цішу перарве,
Масты на возерах—дунаях
Прыгожай ночкаю куе.
І ціха ціха ноч сплывае —
Аж тут у санках хтось стары
Пранёсься вёскай вельмі хутка —
Чаго так сьпешна і куды?
Ад скрыпу санак ў ночнай цішы
Глухія рэхі паплылі,
І на канцы вялікай вёскі
Сабакі брэхам зараўлі.
Тады ізноў настала ціша,
У небе зораньки гараць,
І час-ад-часу, як маланкі,
З нябёс высокіх ў ніз ляцяць.
То зноў, за вёскай ў цёмным боры,
Чуць голас гэты далятаў, —
Выў воўк, так страшна з свайго гора,
Яму мароз знаць дакучаў.
І ціха, ціха, ноч сплывае,
Ужо і поўнач у сяле
І пеўні песьні пачынаюць,
Але так рэдка, мала дзе!
Пачасе сям-там засьвяцілі
У вокнах бледыя вагні,
Сяляне к' працы ўсе ішлі —
Хто што рабіць, хто дзе куды...

**С. Жалюбчык.**

## МОЛАДЗЬ.

Моладзь магутна
Ў цемру закута,
Хоча праврацца
Й народу аддацца.

Цяжка змагацца
З сілаю злою;
Прыдзе часіна —
Узойдзе зарою!
І настане пара,
Калі моладзь гожа
Нягоды зможа
Для народу дабра!

Я. Б.

# Круцёлка.

Настала зіма. Замерзла рэчка, брод, балота, зямля; серабраныя зоркі сьнегу пакрылі дрэва, будынкі і поле, на якім здалёку часам відаць шэрыя грамадкі курапаткаў і па якім час ад часу бегаюць зайцы, рэдкія лісы, а нават і ваўкі. У гэтую пару ціхая беларуская вёска яшчэ больш выглядае абмёршай... Рэдка хто дзе езьдзіць; мужчыны пераважна малоцяць збожжа ў гумнах, а жанчыны прадуць кудзелю ў хатах. Адно толькі час сутонку гавора аб жыцьці. Гэты час зімой прызначаны як-бы для адпачынку і з яго найбольш карыстае працоўная вясковая моладзь, пасьвячаючы яго на гульню і разрыўкі.

І так у гэту пару, ня гледзячы на вялікія часта мараѕы, чутны былі па ўсей ваколіцы крыкі, шум, ломат, беганіна.

— Хлопцы, дзяўчаты — кідаймо санкі, ідзём на круцёлку, бо тут хутка ня можна будзе езьдзіць, людзі сягоньня будуць вяртацца з кірмашу і прагоняць нас з дарогі — крычаў адзін з прысутных.

І праўда, здалёк былі чутны галасы званкоў, скрып саней і крыкі вазьнікоў, ехаўшых навыперадкі.

— Ну дык ідзём, а ці калок убіты ў лёд і ці кола ды жэрдзь ёсьць?

— Ёсьць, усё гатова, я ўжо даўно аб гэтым падумаў, толькі-ж малых ня можна браць з сабой, бо яшчэ каторы падаб'ецца пад санкі ды няшчасьце якоесь станецца — камандаваў Вінцук, ідучы ў гарод на брод ракі Ваўпянкі.

— Вы, малышы, ідзіце ўжо спаць ці вучыцца, бо ўжо позна, а не дык гуляйце у кагось на панадворку — радзіў нехта з старэйшых хлапцоў.

Незадоўга, сярод броду, каля ўбітага калка, сабралася вялікая грамада вясковае моладзі. Адны накладалі кола на ўбіты калок, другія прывязвалі адзін канец жэрдзі да кола, а другі да саначак, а іншыя, узяўшы калы ў рукі, чакалі, каб скарэй маглі запажыць іх у сьпіцы кола і пусьціць у рух круцёлку.

Што-ж, усё ўжо гатова, дык да работы — камандаваў найэнэргічнейшы Вінцук.

Тут хлынулі ўсе да санак.

— Памалу, памалу, а то яшчэ якое няшчасьце станецца, папарадку, трэба разлясаваць, хто сядае і езьдзіць, а хто круце.

Калі ўжо ўладзіліся і яздакі сядзелі на санках, вялікая кампанія пры коле пачала працаваць... Санкі што-раз хутчэй і хутчэй ляталі вакруг кола, зрабіўся вялікі шум, чуваць было крыкі яздакоў, сьмех і вясёласьць тых, каторыя чакалі на санкі, і роўныя крокі тых, што круцілі жэрдзь, каб як найскарэй санкі вярцеліся.

— Хлопчыкі, пачакайце, я больш не магу круціць, я пабягу ад кола, бо мне ўжо ў галаве круціцца — адазвалася Ганна, каторая памагала хлапцом круціць кола.

— Ну дык бяжы, толькі скора, ды глядзі за санкамі, бо як ня ўсьпееш — дастанеш па нагах — радзілі ўсе.

Ня лёгка было уцякаць, але рушыла з месца і толькі ступіла пару крокаў, як закрычала, бо жэрдка дагнаўшы, удэрыла яе па абцасах аб'якаў, адбіваючы іх і валячы бязсільную Ганну на лёд, але яшчэ адна хвіліна і Ганна ляжала скраю рэчкі, адкінута паўторна лятучай жэрдзю. Ня трацячы аднак настрою, Ганна скора ўстала, толькі без абцасаў; шчасьце, што яны былі высокія і што па іх, а не па нагах жэрдзь удэрыла. Круцёлка-ж круцілася далей... скора і безаглядна... Пры коле былі здаровыя працаўнікі, а на санках такія-ж здаровыя яздакі...

— Э, браткі, вы ўжо зашмат езьдзіце, давайце нам, ужо пара, бунтаваліся глядзельнікі.

— Добра, добра, ня будзем сварыцца, зараз круцёлка стане і вы будзеце езьдзіць.

Незадоўга на саначках сядзелі другія яздакі. Круцёлка йзноў з такой самай скорасьцю пачала круціць санкі. Але вось сталася рэч нябывалая — аднаму з яздакоў на столькі закруцілася галава, што ён ня мог больш ехаць, ані адзвацца, ані круцёлкі затрымацьі выпусьціў з рук санкі... Круцёлка была не літасьцівая, адкінула яго так сільна і далёка, што небарак адляцеўшы даўся галавой аб блізкае дрэва і пакалечыўся. Яго сусед, ня могучы ўтрымаць роўнавагі, зьляцеў таксама, аднак астаўся здаровым. Круцёлка-ж круцілася далей, пакуль ставала сіл...

Урэшце, зморыныя вучасьнікі круцёлкі, разыходзіліся дамоў. Не ў аднаго было на думцы: як-жа падобная гэта круцёлка да нашага штодзеннага жыцьця!...

Я. Н.

---

# Лісты.

## ПАЧТАР ЗМАГАЕЦЦА З БЕЛАРУСАМІ.

**Табарышкі,** каля Вільні. У прошлым годзе наша, асабліва больш сьведамая моладзь праявіла дзейнасьць, закладаючы Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і пры ім бібліятэку-чытальню. Гэтая культурна-прасьветная пляцоўка сталася сольлю ў воку кс. М. Волк-Карачэўскага, які стараецца ўсімі сіламі яе зьнішчыць. За прыкладам ксяндза пашоў і арганісты, які трымае пошту.

Аднаго разу прышло пісьмо адрэсаванае на Гурток Бел. Інст. Гасп. і Культуры; калі зьявіўся старшыня гуртка па пісьмо, паштар зажадаў упаважненьня (?). Пасьля старшыня ўпаважніў чалавека, але арганісты, паглядзеўшы на ўпаважненьне і на беларускія пячаткі прызнаў, што гэта упаважненьне неважнае, бо напісана па беларуску. Урад гуртка, бачачы беспраўныя паступкі паштара робіць проціў гэтага захады у адпаведных уладаў.

**Мацей Бондар.**

## З ЖЫЦЬЦЯ КАЗЯНСКАЙ МОЛАДЗІ.

**м. Казяны,** пав. Браслаўскі. У апошнія часы духовае жыцьцё моладзі штосьці прыціхла. Няма таго моцнага юнацкага размаху, які выявіўся ў часы існаваньня тут Т-ва Б. Ш. Усялякія палітычныя працэсы з Т-ва Б. Ш., а пасьля яе „завешаньне“, спарадзілі ў маладых душах трывогу, несупакой. Заціхлі Казяны... І толькі ў рэдкія хвіліны зноў ажывае, калі на сцэне „тутэйшага тэатру“ пакажыцца беларуская п'еса, стаўленая пажарнай стражай, ці паліецца родная песьня. У такія часы будыніна, дзе ставіцца спэктакль ня можа зьмясьціць глядзельнікаў.

Толькі шкода, гэтая іскра сьвятла ня часта загараецца у м. Казяны. Няма тут тых чыннікаў, якія-б узяліся вясьці культурна-нацыянальную працу. Т-ва Б. Ш. назаўсёды „завешана“, а моладзь не парупілася залажыць іншую падобную арганізацыю, як Беларускі Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, каторая і далей праводзіла-б распачатую працу. А грунт да гэтага падатны.

Пара казянскай моладзі зьвярнуць на гэта асаблівую увагу! **К.**

## ДА ПРАЦЫ!

**Залесчына** пав. Дзісненскі. Пасьля зачыненьня Глыбоцкай Акружной Управы Тав. Бел. Школы, культурна-асьветная праца ў нашай гміне пачынае паволі падупадаць. Людзі застрашаныя арыштамі і змучаныя голадам, які загасьціўся па нашых вёсках, ня маюць ужо тэй энэргіі і веры ў лепшую будучыню, з якой працавалі дагэтуль на ніве бе-

ларускага адраджэньня. Праўда, ёсьць шмат яшчэ сялян, а асабліва моладзі гатовай аддаць юнацкія сілы за лепшую будучыню беларускага народу. Але сколькі-ж і здраднікаў, каторыя за адзін каптан з бліскучымі гузікамі, або крыж „Stowarzyszenia Młodzieży" прадаюць родную мову і выракаюцца сваіх абычаяў?!

Браты Беларусы! Не ўрадзіла на вашых нівах, цярпелі вы голад, але гэта не адстрашыла вас засяваць нанова свае вузкія загоны, каб на другі год дачакацца ўраджаю. Хай-жа не адстрашаюць вас арышты, ані здрады вашых таварышаў, працуйце і далей для нашай Бацькаўшчыны!

**Залескі.**

## ДА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

**Порплішча,** Дзісьненскага павету. Мінуў стары год. Прайшло дзесяць месяцаў часу, як рэдакцыйная калегія пачала выдаваць у сьвет месячнік беларускай моладзі „Шлях Моладзі." Гэта адзіны той месячнік у Заходняй Беларусі, гэта адна тая зорка, без каторай так шмат пражыла наша моладзь і без каторай немагчыма было жыць. Бо трэба думаць аб выхаваньні моладзі нашай у духу беларускім, на ідэйных грамадзян і вялікіх змагароў нашай старонкі. Да сёнешняга дня наша моладзь ня мае ніякай сваей арганізацыі. Дзеля гэтага наша моладзь ідзе ў рожныя польскія арганізацыі, як напрыклад „Strzelcy," „Kół. Mł. Wiejskiej." „Sokoły" і іншыя. Дык астаецца толькі прывітаць сваю першую арганізацыю пад назовам: Таварыства Беларускай Моладзі „Будучыня," каторая ўжо падала на зацьверджаньне ўладам свой статут, а такжа падтрымаць „Шлях Моладзі" як матэр'яльна, так тэхнічна і духова, каб гэта часопісь у хуткім часе збагацела і пачала выходзіць ня раз у месяц, а чатыры разы. Належа так-жа зложыць вялікую падзяку рэдакцыйнай калегіі, каторая ўзялася за так важную справу і пачала выдаваць саматугам для моладзі часопісь.

Выпісавайма свой месячнік „Шлях Моладзі"! Хай з 1930 г. дойдзе ён у кожны глухі кут нашага краю, у кожную глухую вёску!

**Малады Каваль.**

 **Хроніка.** 

**Статут Т-ва Беларускай Моладзі „Будучыня" — не зацьверджаны.** 17 лютага 1930 г. заклaдчыкі Т-ва беларускай моладзі „Будучыня" атрымалі паведамленьне ад віленскага ваяводы, у якім апошні адмаўляе зацьверджаньня Статуту Т-ва з прычыны таго, што § 10 і 11 Статуту не адпавяда-

юць вымогам 6 арт. Распараджэньня Ген. Кам. У. З. з дня 25. IX. 1919 г.

Ад гэтага пастанаўленьня прыслугоўвае закладчыкам права адклїканьня да Міністра Ўнутранных Спраў у працягу 14 дзён.

**Канфіската „Беларускай Крыніцы“.** 15 г. м. Віленскае Гарадзкое Староства сканфіскавала № 6 „Беларускай Крыніцы“ за зьмяшчэньне стацьці п. н. „Ахвяры касьцельнай палітыкі кс. Дроніча“.

**Арышты сяброў тэатральнай трупы Бел. Інст. Гасп. і Культуры.** Як ведама, на абшары гм. Смаргонскай заснавалася тэатральная трупа Інстытуту, якая вельмі жвава працуе. З прычыны вобыскаў і арыштаў, якія былі нядаўна скіраваны быццам на працаўнікоў Бел. Сял.-Раб. Пас. Клюбу, не абмінулі і працаўнікоў на ніве культурна-прасьветнай. 30 сьнежня былі арыштаваны сябры тэатральнай трупы Інстытуту Сасноўскі Пётра і Сымон з в. Гальляшонак, Шчасная Александра з в. Пасанак; Каравай Базыль і Уладзімір з в. М.-Мыса № 5 і Янчуковіч Віктар з в. Караваяў. Ува ўсіх іх адбыліся вобыскі, пасьля якіх былі яны арыштаваны. Вобыскі былі зроблены і ў Гуртках Інстытуту ў в. Шутавічах і Сьвірыдавічах.

Аказалася пры сьледстве, што гэтыя сябры нічога супольнага ня маюць з працай Бел. Сял.-Раб. Пасольскага Клюбу і ўсе яны хутка былі звольненыя.

**Надаела камуністычнае панаваньне.** Апошнім часам, як падаюць газэты, вельмі шмат беларускіх сялян уцякае з Радавай Беларусі ў Польшч. Відаць, камуністы сваей дыктатурай да таго давялі, што людзі змушаны пакідаць свае родныя гнёзды і ўцякаюць пад Польшч. А тут чакае іх таксама „рай“...

**Суды.** 24. I. с. г. Віленскі Акружны Суд на выяздовай сэсіі ў Вілейцы засудзіў гр. Ст. Грыба на 9 месяцаў, адразу садзячы яго ў турму і М. Ермака на 4 месяцы, пакідаючы яго на волі за каўцыю. Сталася гэта з прычыны забурэньняў у Жодзішках у касьцеле за беларускія рэлігійныя песьні.

— У пачатку г. м. рэдактар М. Пецюкевіч і выдаўца Я. Багдановіч часопісі „Шлях Моладзі“ атрымалі акт абвінавачаньня за сканфіскаваны нумар „Шляху Моладзі“, у якім пракуратар закідае праступленьне прадбачана 132 арт. К. К.

— 26 г. м. будзе разглядацца ў Віленскім Акружным Судзе справа гр. В. Шутовіча інструктара Бел. Інстытуту Гасп. і К., засуджанага ў першай інстанцыі на 2 месяцы арышту.

— 17 сакавіка с. г. у Віленскім Акружным Судзе будзе разглядацца справа рэдактара „Беларускай Крыніцы“ гр. Янкі Пазьняка, абвінавачанага па 132 арт. К. К.

**Спэктакль-вечарыны.** — 26 г. м. Гурток Бел. Інстытуту Г. і К. у Данюшаве ладзіў у в. Казянятах, Жодзішнай гміны спэктакль-вечарыну, адыграна „Птушка шчасьця“. Народу было шмат.

19 м. м. Гурток Б. Інстытуту Г. і К. у Дуброве, Маладэчанскага пав. ладзій спэктакль-вечарыну. Адыграны „Міхалка“ і „Лекары і лекі“. Вялікая саля, дзе адбывалася вечарына, была перапоўнена публікай.

— 5 г. м. моладзь в. Свінкі Вялейскага пав. пад кіраўніцтвам А. Тумаш ладзіла спэктакль-вечарыну. Адыгралі п'есы: „Янка Канцавы“, „Мікітаў лапаць“ і „Кветка папараць“. Народу было вельмі шмат.

— Вучні Віленскай Беларускай Гімназіі 2 г. м. ладзілі беларускі канцэрт, у часе якога выступалі: гімназіяльны хор, духавы і струнны аркестры і салісты, пасьля былі скокі. 15 г. м. гэтыя-ж самыя вучні ладзікі спэктакль-вечарыну; былі адыграны п'есы: „На папасе“ і „Кветка папараці“. Пасьля адбыліся танцы.

19 м. м. беларуская моладзь в. Зялянкі, Сьвянцянскага пав. ладзіла спэктакль-вечарыну, ставілі „Выбары Старшыні“.

26 м. м. Гурток Бел. Інстытуту Г. і К. у Будславе ладзіў спэктаклъ-вечарыну, ставілі п'есы: „Пасланец“ і „Пярэстая красуля“.

**Беларусы ў Латвіі.** Астатнім часам беларусы ў Латвіі заварушыліся. 26 м. м. у Дзьвінску адбыўся беларускі зьезд, у якім бралі ўчасьце 172 дэлегаты. Ганаровым старшынёй быў гр. Пігулеўскі беларускі пасол латвійскага Сойму. У гэтым часе пачала выходзіць (два разы ў месяц) беларуская газэта „Наша Доля“ дэмократычна-народнага кірунку, а так-жа адчынена беларуская кнігарня ў Дзьвінску.

**12-я Угодкі Незалежнасьці Літвы.** 16 лютага с. г. літоўскае грамадзянства, як у незалежнай Літве, так і пад Польшчай урачыста сьвяткавала 12-я ўгодкі Незалежнасьці Літвы.

У Коўне, у цяперашняй сталіцы Літвы, якая была вельмі прыгожа ўбрана, адбыліся ў ва ўсіх сьвятынях урачыстыя набажэнствы, урачыстыя экадэміі, прамовы і інш.

Віленскае літоўскае грамадзянства ў гэты так важны дзень ладзіла ўрачыстую Акадэмію ў Гандлёва Прамысловым Клюбе. Акадэмію адкрыў і прачытаў лекцыю з гісторыі Літвы старшыня Тымчасовага Літоўскага Камітэту гр. Сташыс.

З прывітаньнем ад Беларускага Нацыянальнага Камітэту выступаў гр. пасол А. Стэповіч, які ў кароткіх словах апрача прывітаньня высказаў также патрэбу лучнасьці паміж Беларусамі і Літвінамі. Ад украінскіх студэнтаў вітаў літоўскае грамадзянства студэнт украінец віленскага ўнівэрсытэту Сагайко. Ад беларускай моладзі згуртаванай каля

час. „Шляху Моладзі“ выступаў гр. Пецюкевіч, які вітаючы літоўскае грамадзянства высказаў патрэбу супольнае працы моладзі трох братніх народаў украінскага, беларускага і літоўскага. Ад беларускага студэнства выступаў студэнт Ст. Станкевіч.

Пасьля прывітаньняў і лекцыі адбыўся канцэртны аддзел. Акадэмія закончана адсьпяваньнем літоўскага народнага гымну.

**З Польшчы.** Найвышэйшы Суд разглядае справы надужыццяў у часе выбараў да Сойму і Сэнату і ў некаторых вакругох выбары касуе і назначае новыя. 24 г. м. будзе разглядацца справа Лідзкага вокругу, дзе быў скасаваны спісак № 18 нацыянальных меншасьцяў. Сойм скончыў ужо буджэтную сэсію, прымаючы агульную суму даходаў на 3.058.438.568 зл. і агульную суму расходаў на 2.928.725.737 зл. У гэтай суме Сойм прыняў, дзякуючы захадам пасла Ярэміча, 500 тысяч злотых на беларускія справы, з чаго 100 тысяч на беларускую вучыцельскую сэмінарыю, 150 тысяч на беларускія вучыцельскія курсы, 200 тыс. на будову бурсы (прытулку) Беларускай Наваградзкай гімназіі і 50 тыс. зл. на выдавецтва. Цікава толькі, як гэтыя грошы будуць выкарыстаны? У часе буджэтовай сэсіі выступалі беларускія паслы, баронячы беларускіх спраў.

**З заграніцы.** У Нямеччыне і далей адбываюцца дэманстрацыі камуністаў і бойкі іх з нацыяналістамі і сацыялістамі. Апошнім часам у Нямеччыне камуністы, маючы падтрыманьне з боку С.С.Р.Р., вельмі выяўляюць сваю дзейнасьць, пераважна сярод безработных, лік якіх з кожным днём павялічаецца, так напр. 29 прошлага м-ца налічалася 2 мільёны 21 тысяча асоб безработных гэта лічба за м-ц студзень павялічылася больш чым на 200 асоб.

— У пачатку гэтага м-ца ў Бэрліне кончыўся суд над фальшыўчыкамі бальшавіцкіх чырвонцаў (аб якіх мы пісалі ў прошлым нумары „Шляху Мол.“), які трох зусім апраўдаў а рэшце кару скасаваў.

У С.С.Р.Р. Камуністы здымаюць званы з цэркваў і касьцёлаў, а нават і крыжы з могілкаў, нішчаць ,,кулакоў“ а так-жа, як пішуць газэты, падрабляюць даляры амэрыканскія, і іншыя загранічныя грошы, кіруючы іх на камуністычную агітацыю па ўсім сьвеце. Падробленыя грошы вельмі мала рожняцца ад добрых і высылаюцца за граніцу не на лік, а на вагу.

— У Англіі ў Лёндыне яшчэ адбываецца марская кан-

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

фэрэнцыя, якая разглядае справу разаружаньня; у канфэрэнцыі з большых дзяржаў не бяруць удзелу Нямеччына і С.С.Р.Р.

— У Гішпаніі ўпала дыктатура. Ведамы дыктатар Прімо дэ Рівэра з сваім ўрадам падаўся ў адстаўку, яго мейсца заняў новы ўрад, да якога вельмі прыхільна адносіцца ўсё гішпанскае грамадзянства.

— Эстонскі прэзыдэнт Штрандман у гэтым месяцы адведаў Польшч.

— У Латвіі адбылася ў г. м. перапісь жыхароў, якая мае там вялікае значэньне. Ад гэтай перапісі залежыць вялічыня ўрадавых субсыдыяў для латвійцаў і іншых народаў як беларусаў, так і вялікарусаў, якая аблічаецца працэнтова паводле ліку народу.

— У Францыі нядаўна згінуў былы рускі генэрал эмігрант Кутепаў, які быў галавой бадай ўсяе рускае эміграцыі. Ходзяць чуткі, што паў ён ахвярай камуністычных агентаў Г. П. У., якія яго злавілі ў Парыжы на вуліцы сярод белага дня і дзесь вывезьлі, а мо' ўжо і забілі. Паміма энаргічнага сьледства францускай і ахвотніцкай рускай эміграцкай паліцыі адшукаць генэрала, ані яго трупа пакуль што не ўдалося. Выпадак гэты зрабіў вялікае ўражаньне на ўсім сьвеце, безумоўна, пацерпяць ад гэтага многа і камуністы, якіх прадстаўнікоў-дыплёматаў з С.С.Р.Р. заграніцай ўжо байкатуюць.

## Усячына.

**Місс.** У той час, калі працоўныя масы ўсяго сьвету перажываюць матэр'яльны крызыс, церпяць безрабоцьце, знаходзяцца людзі, каторыя ладзяць розныя дарагія гульні; так апошнімі гадамі ў ва ўсіх бадай дзяржавах адбываюцца выбары найпякнейшае жанчыны, званай місс*). Пасьля Місс кожнае эўропэйскае дзяржавы едуць у Парыж, дзе выбіраюць місс Эўропы, якая едзе ў Амэрку, дзе выбіраюць ужо місс усяго сьвету. Сёлета ў гэтай панскай забаўцы брала ўчасьць ў Эўропе 20 дзяржаў. Мусіць прад канцом сваім так забаўляюцца.

**Тунэлі.** У Афрыцы і ў Гішпаніі, на берагох цясьніны Гібральтару распачата ўжо будова падморскага тунэлю, які злучыць Эўропу з Афрыкай. Тунэль будзе доўгі на 36 кілям. і глыбокі пад вадой на 60 мэтраў, каштаваць будзе каля 400 мільёнаў злотых, якія дае Гішпанія.

Мае быць таксама праведзены падморскі тунэль, які злучыце Англію з Францыяй пад каналам Ля-Манш.

**Уміраюць 63 асобы.** На цэлым сьвеце ўміраюць за адну мінуту 63 асобы.

**Зьелі 1033 асобы.** У прошлым годзе, па афіцыяльнай статыстыцы ў Індыі тыгры зьелі 1033 асобы.

**32 мільёнаў аўтамабіляў** ёсьць на цэлым сьвеце.

---

*) Місс—па англійску—паненка.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

# Наша пошта.

Я. Грушніку. Выслаць № № 1, 2, 3 „Шляху Моладзі“ ня можам, бо ўсе нумары ўжо разышліся, грошы залічаем на бягучы год.

Сьветавастокаву. 2 зл. ад рэд. „Сахі“ атрымалі № 6 „Ш. М.“ высылаем, № 1 і 2 ня маем ужо.

Скрэбцу. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем, зьмесьцім у наступным нумары „Шляху Моладзі“, пішыце больш.

Шмыту. Вершы атрымалі, разгледзім і калі падойдуць, дык зьмесьцім у наступным нумары, а не, дык зробім так, як Вы просіце. Пішыце лепш прозай штось з жыцьця сялянскае моладзі.

Добрыяну Самсану. Верш атрымалі, будзем карыстаць, просім пісаць больш. Вельмі цешымся, што „Ш. М.“ Вам падабаецца.

Я. Шкрабу. Адказ даём паштоўкай.

Антону Семашкевічу. За пажаданьні шчыра дзякуем, вельмі нам прыемна, што будзеце нашым сталым супрацоўнікам. Вершы Вашы атрымалі, калі падойдуць, зьмесьцім у наступным нумары.

Непакорнаму с пад Слоніма. Матэр'ялы атрымалі, зьмесьцім у наступным нумары, просім пісаць больш, вельмі прыемна, што Вы нас не забываеце, пашырайце „Шлях Моладзі“ сярод сваей моладзі.

Сароку. Народныя песьні атрымалі, зьмесьцім, пішыце больш і пашырайце ў сваей старонцы „Шлях Моладзі“.

Леаніду с пад Вішнева. Вельмі прыемна, што Вы не забылі і ізноў пішаце, будзем зьмяшчаць у далейшых нумарох, за спачуцьцё дзякуем. Просім не забываць.

С. Семашкевічу. За пажаданьні дзякуем, вельмі прыемна, што Вы будзеце сталым супрацоўнікам, калі, што напішаце, а ня будзеце мець грошай на пісьмо, дык пасылайце без значка, даплатным пісьмом.

Карпоўскаму. Матэр'ялы атрымалі, зьмесьцім у наступным нумары, пішыце больш.

Моладзі в. Загалечы. Просьбу спаўняем.

Маладому Дубку. Вершы атрымалі, каторыя будуць падходзіць, будзем зьмяшчаць, можа нават у кожным нумары „Ш. М.“, асобнай кніжкай выдаць ня можам, бо на гэта трэба шмат грошай. „Ш. М.“ высылаем.

Ігнату Лобачу ў Амэрыцы. „Ш. М.“ высылаем, напішэце штось з жыцьця ў Амэрыцы.

Ст. Сьвёнткоўскаму. Матэр'ялы атрымалі, „Ш. М.“ высыляем, адказ дамо пісьмом.

Атрымана падпіска на „Шлях Моладзі“ ад: Ключановіча М. 8 зл., а. Дуброўскага 5 зл., а. Філевіча, а. Высокінскага па 4 зл., Грушніка Я., Гунька К., Прышыцкага Я., Карузы Б., Знамяроўскага Ул. па 2 зл., Скрэбца Ул. 1 зл. 50 гр., Пылінскага Я. 1 зл. 20 гр. Шчыра дзякуем, „Шлях Моладзі“ высылаем.